17 ЖНІЎНЯ 1999г. АЎТОРАК

# НАВІНЫ

№92 (623) КОШТ СВАБОДНЫ

## С.Калякин: «Переговоры нужны всем, но больше всего — Лукашенко»



стр.3

## У Шклове да «Дажынак» могуць дажыць не ўсе

### Зборам ураджаю на радзіме Лукашэнкі цяпер будзе займацца надзвычайная камісія

Аляксандр СЕРДЗЮКОЎ

**Генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка наведаў Магілёўшчыну, але не з мэтай барацьбы супраць злачыннасці, а каб асабіста пракантраляваць ход збору ўраджаю.**

Апошнім часам у рэгіён зачасцілі высокапастаўленыя чыноўнікі. Іх заклапочанасць можна зразумець. У Шклове рыхтуюцца да правядзення «Дажынак-99», на штo ўжо пайшлі вялізныя сродкі, а рэгіён да гэтага часу займае апошняе месца ў краіне па паказчыках правядзення жніва. Ужо зараз зразумела, што даручэнне А.Лукашэнкі аб павелічэнні збору ўраджаю на чвэрць да мінулагодняга ўзроўню не будзе выкананы, хоць чыноўнікі дэманструюць сваю стараннасць. Але ж калі не будзе выкананы план напярэдадні «Дажынак», можна паплаціцца і сваёй пасадай, як у выпадку з Аляксандрам Кулічковым. Відаць таму з пачатку гэтага тыдня губернатар вобласці Міхаіл Дражын прапанаваў стварыць надзвычайную камісію па кантролі за ходам жніва і нарыхтоўкай кармоў.

Камісія будзе кантраляваць стараннасць чыноўнікаў, якія адказваюць за развіццё сельскай гаспадаркі, і прыспешваць іх да выканання плана. «Не створым камісію — будзе голад», — пракаментаваў сітуацыю М.Дражын. Бо і зараз прадуктаў у крамах не хапае. З голадам будзе змагацца і магілёўская міліцыя. Яе шэф Віталій Апанасевіч атрымаў даручэнне кантраляваць ход вывазу прадуктаў харчавання ў Расію, што ён і зрабіў. 30 адсоткаў асабовага складу міліцыі кінутыя на мытню, дзе імкнуцца не дапусціць вывазу харчавання. ■

# Беластоцкая сустрэча

## Старшыня ВС Сямён Шарэцкі, які ўжо тры тыдні знаходзіцца на тэрыторыі Літвы, сустрэўся ў Беластоку з лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком

Альгерд НЕВЯРОЎСКІ

**У мінулую пятніцу на тэрыторыі Польшчы сустрэліся Сямён Шарэцкі і Зянон Пазьняк. Падчас размовы яны абмяркоўвалі сітуацыю вакол будучых перамоваў паміж уладамі і апазіцыяй.**

Праўда, сам Сямён Шарэцкі сцвярджае, што прыязджаў у Беласток з зусім іншай мэтай. Паводле словаў спікера, ён ездзіў у Польшчу па запрашэнні мясцовай беларускай дыяспары і дамаўляўся з рэдакцыяй газеты «Ніва» і кіраўніцтвам беларускай праграмы польскага радыё аб пастаянным асвятленні гэтымі СМІ дзейнняў Вярхоўнага Савета. У Беласток з Варшавы прыехаў і Зянон Пазьняк. Іхная сустрэча працягвалася некалькі гадзінаў, аднак падобна на тое, што ніякіх канкрэтных рашэнняў падчас яе прынята не было. Лідэр БНФ заявіў, што пакуль толькі выказаў сп.Шарэцкаму свае погляды на будучы перамоўны працэс, а аб канкрэтным супрацоўніцтве ён са старшынёй ВС не дамаўляўся.

Як вядома, Зянон Пазьняку прынцыпе падтрымлівае ідэю перамоваў апазіцыі з Лукашэнкам, але выступае супраць перадачы Фронтам сваіх паўнамоцтваў ВС. Па-рознаму глядзяць Пазьняк і Шарэцкі і на магчымасць апазіцыі выступіць на перамовах адзіным фронтам. Лідэр БНФ лічыць аб'яднанне беларускіх апазіцыянераў немагчымым, а спікер, наадварот, гаворыць, што аб'яднанне партыяў ужо адбылося.

Як паведаміў нам Сямён Шарэцкі, нягледзячы на пэўныя рознагалоссі, яганая сустрэча з Пазьняком была канструктыўнай. Абодва палітыкі прыкладна аднолькава ацэньваюць магчымыя вынікі перамоваў уладаў і апазіцыі пры пасрэдніцтве АБСЕ. І Шарэцкі, і



Пазьняк лічаць, што перамоўны працэс хутчэй за ўсё будзе сарваны Аляксандрам Лукашэнкам. Аднак, паводле словаў Шарэцкага, спрабаваць дамовіцца з афіцыйным Мінскам усё ж такі трэба.

Спікер ВС таксама абверг інфармацыю, распаўсюджаную БТ, згодна з якой у Шарэцкага не было сустрэчы з прэзідэнтам Літвы Валдасам Адамкусам. «Я сустракаюся ў Вільні з многімі літоўскімі палітыкамі, у тым ліку і самага высокага рангу, а тое, што гаворыць пра мяне беларускі амбасадар Уладзімір Гаркун і іншыя чыноўнікі, з'яўляецца бруднай і нахабнай хлуснёй», — заявіў Сямён Шарэцкі. Спікер ВС паведаміў нашай газеце, што ў яговых бліжэйшых планах ёсць сустрэчы і з іншымі апазіцыйнымі беларускімі палітыкамі. Адносна магчымага падпісання Шарэцкім 21 жніўня ўказа аб прыняцці прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Сямён Георгіевіч сказаў, што такі ўказ можа быць падпісаны ў любы дзень, калі стане зразумела, што Аляксандр Лукашэнка сарваў перамовы з апазіцыяй.

Цікава, што ўрады Літвы і Польшчы прынялі беспрэцэдэнтныя меры бяспекі падчас візіту Шарэцкага ў Беласток. Да літоўска-польскай мяжы аўтамабіль старшыні ВС суправаджалі супрацоўнікі літоўскіх спецслужбаў, а на польскай тэрыторыі картэж Сямёна Шарэцкага суправаджалі мясцовая паліцыя і прадстаўнікі Бюро аховы ўрада з Варшавы. ■

ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Мінскія маторабудаўнікі запатрабавалі зарплату

16 жніўня на Мінскім маторным заводзе ўзнікла стыхійная забастоўка. Каля 500 рабочых запатрабавалі выплаціць ім заробак за ліпень. Забастоўка працягвалася прыкладна гадзіну, пасля чаго работнікам аднаго з цэхаў завода тэрмінова пачалі выплачваць заробак за мінулы месяц. На гэтым забастоўка скончылася.

Рыгор БУЯН

### На Украине закроют вытрезвители

Кабинет министров Украины своим постановлением одобрил решение о закрытии всех медицинских вытрезвителей с 1 января 2000 года. Таким образом милиция была освобождена от медицинского вытрезвления граждан. Кабинет министров рекомендовал министерству здоровья обратить свое внимание на этот вопрос.

Ukraine Online

### Дагестан пад бомбамі

Працягваецца грамадзянская вайна на тэрыторыі Дагестана. Федэральныя войскі Расіі толькі за нядзелю па сёлах, дзе знаходзяцца ісламісты, нанеслі 18 ракетна-бомбавых удараў. Таксама «федэралы» замініравалі падыходы да мяцежных сёлаў.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ



НАДВОР'Е




**Сёння ўдзень** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, на значнай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы, вецер паўднёва-заходні, 5—10 м/сек., пры навальніцах — парывы да 14 м/сек. **18 жніўня** пераменная воблачнасць, ноччу месцамі кароткачасовыя дажджы, удзень пераважна без ападкаў, вецер заходні, 3—8 м/сек. Тэмпература ноччу 8—13. **19 жніўня** ў заходняй частцы рэспублікі кароткачасовыя дажджы, удзень месцамі навальніцы, вецер паўднёва-заходні, 5—10 м/сек., пры навальніцах — да 14 м/сек. Удзень па **Гродзенскай, Гомельскай, Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай** абласцях 21–26, па **Брэсцкай** — 22–25 градусаў.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 465 000**

НАЗІРАЛЬНІК

# Пальцы торчком. Деньги на бочку!

**20 июля с лица власти был снят макияж легитимности. Под «маской» обнаружилась типичная физиономия «пахана». Все становится на свои места, все приобретает свой естественный вид. Нет необходимости притворяться, мучительно подбирать слова, делать вид обученности манерам хорошего поведения. Долой полунамеки, полумеры! Да здравствует сила и страх!**



**Анатолий ЛЕБЕДЬКО, зам. председателя ОГП**

Вслушайтесь, вдумайтесь, чем заполнен теле- и радиоэфир, что и как говорит «вертикаль» и ее прислуга. «Я не понимаю, почему мы до сих пор терпим эту оппозицию, этих шушкевичей, богданкевичей, шарецких и других, которые мешают нам жить! Всех их надо вешать! Уничтожать! Они не дают нашему президенту работать», — восклицает в прямом эфире сторонник Лукашенко. Подобные призывы к крестовому походу и физической расправе над оппозицией регулярно звучат на белорусском радио. И все это, естественно, без последствий для ораторов. Человеконенавистничество, пропаганда фашизма не является для правоохранительных органов Беларуси правонарушением.

Телевидение пытается не отставать. «Резонанс» местами напоминает заявления пресс-службы Салмана Радуева. От помахивания пальчиком перешли к открытым угрозам и откровенному шантажу. Такое ощущение, что в Красном доме появился советник по Кавказу. Местная «братва» взяла на вооружение некоторые методы деятельности чеченских боевиков. Схема классическая. Захват заложников, назначение суммы выкупа и требование: «Деньги на бочку!». Оказывается, по словам Лукашенко, у правоохранительных органов есть согласованная с ним концепция по выбиванию денег из «должников» белорусского народа. Цена может колебаться в зависимости от платежеспособности ходатаев за заложника. Например, стоимость свободы Чигиря за несколько месяцев поднялась с одного до десяти миллионов долларов. Видимо, полагают, что эта сумма по карману Госдепу США, ОБСЕ, Евросоюзу и сотням тысяч граждан Беларуси, требующих освобождения политзаключенного номер один Беларуси. В международной практике, однако, не принято поощрять терроризм. Ибо завтра на месте Чигиря будет Богданкевич, за ним последует Шлындиков и так далее. Как показывает Чечня, захват заложников, поставленный на конвейер, — дело прибыльное. Наличие или отсутствие состава преступления в данном случае никого не интересует. Волнуют, возбуждают деньги. О законе, презумпции невиновности говорить не приходится. Лукашенко един в трех лицах. Он по совместительству и исполнительная, и законодательная, и судебная власть. Еще не было случая, чтобы приговор суда расходился с приказом А.Г. ▶

*Окончание на стр.3*

АЎТОРАК



З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Епархіяльны дарунак

У Мінску паміж пр. Машэрава і Свіслаччу, за палацам спорту «Працоўных рэзерваў» стаіць памятны знак з шэрага граніту, асвячоны мітрапалітам Філарэтам. Гэтым годам сцяжынкі, якія яго абкружаюць, былі пасыпаныя раздробленай цэглай, што ствapae ўражанне ўрачыстага чырвонага дывана, які рассцілаюць для сустрэчы самых шаноўных гасцей. Сам камень пастаўлены на пляцоўцы, якая імітуе фундамент царквы XI стагоддзя (другая імітацыя, зробленая ў 1967 годзе, знаходзіцца ў 100 м). Надпіс на камяні ўзгадвае гэты старажытны фундамент і паведамляе, што камень устаноўлены ў гонар 200-х угодкаў мінскай епархіі, якія адзначаліся ў 1993 годзе.

Неаспрэчна, што кожная ўстанова мае права святкаваць свае юбілеі. Але не кожнай улады дазваляюць адзначаць угодкі памятнымі знакамі ці проста шыльдамі. Было б зразумела, калі б камень стаяў каля ўваходу ў будынак мінскай епархіі. Аднак ён дэманстратыўна пастаўлены ў цэнтры старажытнага мінскага замчышча, дзе ніякага іншага помніка няма. Больш за тое, мінская епархія была ўтвораная пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 годзе, калі да Расіі была далучаная цэнтральная частка Беларусі, у тым ліку і Мінск. Епархіяльны камень стаў такім чынам помнікам, які ўшаноўвае другі падзел і гвалт, учынены 200 гадоў таму Расійскай імперыяй. Ніякіх фармальных падставаў для ўстаноўкі каменя на гэтым месцы няма. Старажытная царква мела толькі падмурак, яна недабудавалася, магчыма, пасля вынішчэння Мінска Уладзімірам Манамахам. У XII стагоддзі ў межах фундамента праводзіліся пахаванні, а ў XIII тагачасныя менчукі засыпалі фундамент і праклалі зверху маставую. Калі яны былі абыякавыя да царкоўнага падмурка, дык што можа ўшаноўваць епархіяльны камень? Епархія ніколі не мела дачынення да мінскага замчышча, а Руская праваслаўная царква з'явілася ў Мінску пасля падзелаў. Помнік у гонар далучэння апынуўся ў самай старажытнай кропцы горада. У сувязі з маючым быць новым далучэннем трэба прызнаць, што ўстаноўшчыкі каменя глядзелі не толькі назад, але і наперад, бласлаўляючы тое, што ўспрымаецца як нацыянальная трагедыя. Экзархат паступіў бы лепш, калі б перанёс камень на тэрыторыю, прылеглую да свайго афіцыйнага асяродка, бо немагчыма шанаваць тое, што выклікала паўстанне 1794–1795 гадоў.

ФОТАФАКТ



У мінулую пятніцу ў мінскім мікрараёне Малінаўка Аб'яднаная грамадзянская партыя і Хартыя'97 праводзілі пікетаванне пад лозунгамі «Дыктатуры капец», «Долой Луковорье», «Мир хижинам – война Дроздам». Падчас пікетавання адбыўся непрыемны інцыдэнт: мужчына ва ўзросце каля 40 гадоў, на добрым падпітку, раптам накінуўся на ўдзельнікаў акцыі. Ён парваў плакат і нанёс аднаму чалавеку цялесныя пашкоджанні. Міліцыя павяла сябе годна: яна хутка прыбыла на месца здарэння, скруціла хулігана і даставіла яго ў пастарунак. Далейшы ягоны лёс рэдакцыі невядомы. Падчас бойкі з кішэні «тэрарыста» выпаў пакет з сямейнымі фотаздымкамі. Адзін з іх мы змяшчаем сёння – няхай гэтаму чалавеку будзе сорамна.




Фота Ул.ШЛАПАКА

# Ці ўступіцца Шродэр за Лявонава?

## Дочкі экс-міністра адправілі ліст канцлеру ФРГ

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Сёння мусіць пачацца судовы працэс над былым міністрам сельскай гаспадаркі Беларусі Васілём Лявонавым. Напярэдадні працэсу тры дачкі Васіля Лявонава – Святлана Уласава, Зоя Істоміна і Таццяна Бако – звярнуліся непасрэдна да канцлера Германіі Герхарда Шродэра, а таксама да нямецкіх парламентарыяў з просьбай паўплываць на Лукашэнку, каб у дачыненні да Лявонава не парушаліся правы чалавека.

«Для прэзідэнта Беларусі наш бацька – вораг яшчэ і таму, што бацька хацеў рэфармаваць сельскую гаспадарку Беларусі па нямецкім узоры, г. зн. ён быў прыхільнікам вызвалення сялянаў ад дыктата дзяржавы і ўвядзення рынкавых адносінаў на сяле. Мадэль рэфармавання сельскай гаспадаркі наш бацька запазычыў з Германіі, дзе ён прапрацаваў два з паловай гады... Мы просім Вас выкарыстаць усе магчымыя рычагі ўплыву дзеля таго, каб супраць нашага бацькі спынілі катаванні...», – пішуць жанчыны нямецкаму кіраўніцтву. Яны баяцца, што могуць больш не пабачыць свайго бацьку, і сцвярджаюць, што падчас следства супраць Васіля Лявонава былі парушаныя дзесяткі артыкулаў заканадаўства Беларусі.

Днямі адкрыты ліст дачок Лявонава быў перададзены ў нямецкую амбасаду. Адказу з Германіі яны пакуль не атрымалі. ■



ДАКУМЕНТ НУМАРА

*Директору БФГБ Капшаю А.Е.*
*от рабочего полиграфцеха*

**Объяснительная записка**

**Настоящим докладываю, что в результате топливно-энергетического кризиса и отсутствием бензина на бензозаправке на станции Березино, возникшего в результате безалаберного руководства страной, я не смог прибыть на работу 2.8.99**

*3.8.99* *Подпись*

УНУТРАНАЯ ПАЛІТЫКА

## Калі пачаць перамовы?

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Дата перамоваў паміж уладай і апазіцыяй пакуль не вызначаная.

Старшыня ўладнай дэлегацыі на перамовах, памочнік А.Лукашэнкі Міхаіл Сазонаў паведаміў у эфіры БТ, што перамовы пачнуцца «на наступным тыдні» – мяецца на ўвазе тыдзень, які распачаўся ўчора. Але прадстаўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька заявіў учора, што ніякія перамовы з уладамі не пачнуцца, пакуль сесія Вярхоўнага Савета не зацвердзіць склад дэлегацыі. Хутчэй за ўсё, гэта адбудзецца не раней за верасень. ■

ПЕРАМОГА

## Адвакат атрымала ўзнагароду ад амерыканскіх калегаў

Аляксей ЗНАТКЕВІЧ

Беларускі адвакат Вера Страмкоўская стала адным з двух замежных адвакатаў, якія сёлета атрымалі штогадовую ўзнагароду Амерыканскай асацыяцыі юрыстаў за абарону правоў чалавека. Сярод кліентаў, якіх Вера Страмкоўская прадстаўляла па крымінальных справах, — былы кіраўнік акцыянернага таварыства «Рассвет» Васіль Старавойтаў, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Андрэй Клімаў, расійскі прадпрымальнік беларускага паходжання Анатоль Сілівончык. Акрамя таго, В.Страмкоўская часта абараняла па адміністрацыйных справах удзельнікаў палітычных дэманстрацыяў, у тым ліку і старшыню Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікалая Статкевіча.

Другім уладальнікам прэстыжнай узнагароды стаў малайзіец Зайнур Закарыя, які абараняе былога прэм'ер-міністра Малайзіі Анвара Ібрагіма. ■

УСХОДНІ НАПРАМАК

## БПСМ ужо ў Екацярынбургу

Наталля КУЛАГІНА

Дэлегацыя Беларускага патрыятычнага саюза моладзі бярэ ўдзел у форуме «Моладзь Урала за Саюз Расіі і Беларусі», які праходзіць сёння ў Екацярынбургу (Свярдлоўская вобласць Расіі).

На форуме, які праводзіцца пры падтрымцы губернатара Свярдлоўскай вобласці Эдуарда Росэля, заяўлена пра стварэнне руху «За Саюз Расіі і Беларусі». Лідэр БПСМ Усевалад Янчэўскі абраны сустаршынёй руху «За Саюз Расіі і Беларусі» з беларускага боку.

Новы маладзёжны рух збіраецца дамагчыся ад расійскіх уладаў спынення, як сказаў адзін з прамоўцаў, «скрытага сабатажу інтэграцыйных працэсаў». Ужо праз некалькі тыдняў, паведамляе прэс-служба, аналагічны маладзёжны форум павінен прайсці ў Сібіры. ■

СПОРТ

## Анатоль Карпаў наведаў Мінск

БелаПАН

Чэмпіён свету па шахматах (па версіі ФІДЭ), прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі фондаў свету Анатоль Карпаў сустрэўся з кіраўніком дзяржавы А.Лукашэнкам, кіраўніком ягонай адміністрацыі М.Мясніковічам.

Па словах Карпава, былі абмеркаваныя грамадска-палітычная сітуацыя ў дзвюх краінах і перспектывы расійска-беларускага яднання. Шахматыст назваў «жахлівым ударам» развал СССР. Адначасова Анатоль Карпаў назваў стратай для Беларусі пераезд на пастаяннае месца жыхарства ў Ізраіль яе вядучага шахматыста Барыса Гельфанда.

Трэба адзначыць, што Анатоль Карпаў не ўдзельнічае ў праходзячым зараз у Лас-Вегасе (ЗША) пад эгідай ФІДЭ чэмпіянаце свету. Паводле ягоных словаў, федэрацыя не выканала шэраг пагадненняў. Таму неўзабаве будзе аб'яўлены новы ўладальнік сусветнай шахматнай кароны, а А.Карпаў застанецца своеасаблівым непераўзыдзеным чэмпіёнам. ■

ЧУТКІ

## Линга наконец-то отпустят. С миром?

Отдел информации

По информации, полученной НАВІНАМІ от источника в администрации президента, в ближайшее время может быть назначен новый премьер-министр. На смену Сергею Лингу должен придти глава администрации президента Михаил Мясникович. ■

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# С.Калякин: «Переговоры нужны всем, но больше всего — Лукашенко»

Николай ХАЛЕЗИН

**Подготовка к диалогу между правящим режимом и оппозиционными силами продолжается. В случае, если Александр Лукашенко не пойдет на срыв переговоров, политическая ситуация в стране в ближайшее время будет обусловливаться именно этим процессом. Сегодня на вопросы, касающиеся предстоящих переговоров, отвечает Первый секретарь Партии коммунистов белорусской Сергей КАЛЯКИН.**


Фота Ул.ШЛАПАКА

***— Сергей Иванович, сегодня активно идет подготовка переговоров, но пока ни одна из сторон не сформулировала четко и ясно основную идею этого процесса. В чем она?***

— Изначально, идея переговорного процесса — это создание условий для проведения справедливых демократических выборов. Эта идея предполагает, что с одной стороны будет выступать с некой единой позицией исполнительная власть и те общественные силы, которые ее поддерживают, а с другой стороны — политическая оппозиция, которая тоже должна иметь единую позицию. Только в этом случае переговоры могут иметь какой-то смысл.

***— На прошлой неделе 7 политических партий подписали совместный меморандум о переговорном процессе и по сути выступили единым фронтом. Легко ли удалось согласовать позиции?***

— Относительно легко. Для всех очевидно, что в случае, если 8 политических партий, в той или иной степени заявляющие о своей оппозиционности правящему режиму, пойдут на переговоры каждая со своей платформой и позицией, которые никак не будут согласованы, — это будет профанацией переговоров и не принесет никакого результата. При этом все политические партии, в том числе и ПКБ, отдают себе отчет, что мы все разные, у нас всех различные политические цели, провозглашенные в наших программах. При этом мы многие вещи, понятные простому человеку, видим одинаково.

***— Какие именно?***

— Мы понимаем, что право решения вопроса о власти должно принадлежать народу, то есть избирателям. Соответственно, власть может быть получена только в результате выборов, а не каких-то суррогатов в виде референдумов, продлений сроков полномочий или узурпации власти. Очевидно, что выборы — это не просто процесс опускания бюллетеней в урны. С проведением выборов связан целый комплекс проблем. Эти позиции и станут предметом переговоров.

***— Можно ли сформулировать эти позиции?***

— Их всего три. Первая: человек должен понимать, что он избирает представителя в орган, который ему понятен. Избиратель должен знать ответы на вопросы — что это за орган, какими полномочиями он обладает и какие проблемы белорусской жизни сможет решить. Если сегодня избираться в Национальное собрание, то никаких проблем эти представители, даже избранные самым демократическим путем, решать не смогут. Потому, что сегодня Лукашенко своим декретом может аннулировать любое решение, принимаемое парламентом. Функции парламента, полномочия, его структура являются предметом переговоров.

Второй немаловажный аспект, который должен обсуждаться, — доступ к государственным средствам массовой информации. Все политические силы в стране должны иметь возможность донести до людей свои программы, цели, задачи. Иначе, как может определиться человек, за кого ему отдать свой голос. Ведь государственные СМИ существуют за счет средств, которые мы платим в бюджет в виде налогов, независимо от политических взглядов. Сегодня у нас в стране абсурдная ситуация, когда «резонатор» Зимовский рассказывает людям, о чем думает Калякин или, к примеру, Богданкевич. Мы сами в состоянии рассказать избирателям о чем думаем.

И третий блок вопросов, который будет обсуждаться во время переговорного процесса, — это принципы, по которым будут избираться депутаты.

***— Эти позиции согласованы всеми политическими партиями?***

— Проведено уже несколько встреч лидеров партий, чтобы согласовать эти позиции. На них присутствовали руководители всех партий, в том числе лидер ЛДПБ Сергей Гайдукевич. Он уходил с совещаний не вникая в суть проблемы, потому что никаких конструктивных предложений у него не было. Одно его предложение касалось введения пропорционально-мажоритарной системы выборов, а второе — что он должен быть в составе участников переговоров. Больше у него не было ни возражений, ни предложений.

Каждая партия внесла свои предложения по формированию списка обсуждаемых на переговорах тем, и был сформулирован проект платформы оппозиционных политических партий на переговорах с властью при посредничестве ОБСЕ. Как оказалось, между оппозиционными партиями практически нет расхождений во взглядах. Скорее всего потому, что там нет ничего политического наносного. Там есть только простые, понятные нашим избирателям позиции, с которыми мы пойдем на переговоры.

***— В некоторых СМИ возник целый ряд инсинуаций, касающихся того, на базе какой конституции будут проходить переговоры. Уместно ли вообще говорить о какой-либо конституционной «подкладке» под переговорный процесс?***

— Конечно нет. Переговорный процесс идет вне рамок конституций. И вопрос о полномочиях парламента, который будет рассматриваться, об этом однозначно говорит. Стояние на взаимно неприемлемых позициях закладывает мину под переговоры.

***— Можно ли рассматривать Либерально-демократическую партию как оппозиционную? Ведь для всех очевидно, что эта партия всегда очень хорошо находила с властью общий язык.***

— Мы никогда не отрицали, а принимали на веру те позиции, которые декларировали партии в своих программах. Идти по пути отбора — это тупиковый путь. Если бы, к примеру, коммунисты ограничились лишь союзом с родственными нам политическими партиями — социал-демократами и партией труда, — оттолкнув БНФ или ОГП, то ни о какой единой позиции оппозиционных сил не могло быть речи.

***— Подписанный партиями меморандум оказался «красной тряпкой» для государственных СМИ. Телевидение тут же стало интерпретировать решение партий таким образом, что якобы партии отказались от переговорного процесса и передали свои полномочия Верховному Совету. Есть ли под подобным утверждением какая-то почва?***

— Абсолютно никакой. Существует два мандата на переговоры. Один — это исполнительная власть, и второй — это оппозиционные политические партии плюс Верховный Совет как субъект оппозиционной политики.

Семь партий из восьми, находящихся в оппозиции к режиму, пришли к соглашению о том, что договоренности, достигнутые между ними, должны быть кем-то гарантированы и подкреплены. Право утвердить состав делегации и базовую платформу, на которой будут вестись переговоры, мы передали Верховному Совету, но политические партии остались субъектами переговорного процесса. Именно в этом суть меморандума, подписанного партиями.

***— Важен ли состав делегации на переговорах со стороны исполнительной власти?***

— Со стороны власти должна быть назначена делегация, которая будет иметь полномочия от Александра Лукашенко. Мы должны разговаривать с властью, и не важно, кто ее будет представлять. Со стороны Лукашенко должно быть твердо заявлено, что этот состав делегации обладает полномочиями вести переговоры со стороны исполнительной власти. Персональные составы делегаций, кстати, могут подвергаться ротации, — главное, чтобы это были полномочные делегации.

***— Переговорный процесс должен быть прозрачным. Смогут ли на переговорах присутствовать представители СМИ?***

— Одно из предварительных условий начала переговоров — согласованный подход к освещению этих событий. Очень важно, чтобы о ходе переговоров информировали общественность их участники, а не комментаторы с белорусского телевидения. В противном случае переговорный процесс может быть сорван из-за искажения информации. Мы считаем, что представители журналистского корпуса должны присутствовать на всех заседаниях, кроме отдельных, где будут обсуждаться какие-то рабочие моменты.

***— Для кого эти переговоры более важны: для оппозиционных партий, власти или ОБСЕ?***

— В том, что оппозиционные партии являются оппозиционными, никто не сомневается, как и в том, что ОБСЕ является авторитетнейшей международной структурой. А вот в том, что Александр Лукашенко не является законным президентом, уверены все. Так что для Лукашенко переговоры важнее всего. ■

НАЗІРАЛЬНІК

## Пальцы торчком. Деньги на бочку!

*Окончание. Начало на стр.1*

По большому счету мы все заложники. Случившееся в Беларуси — это самый массовый и циничный за последние десятилетия террористический акт на европейском континенте. Любого из нас могут поселить на Володарку, поместить в Новинки, оболгать, оклеветать. Но не каждого в состоянии сломать, купить, запугать.

Одним из приоритетов политических террористов является создание «конструктивной оппозиции». По весне, не без содействия последних, в оппозицию образовалась очередь. Создается видимость увеличения островка оппозиционности. Но это иллюзия. Нет почвы, есть болото. Очевидно, что накануне возможных переговоров, а тем более выборов, на раскол оппозиционных сил будет работать вся мощь государственной машины. Для власть имущих нет ничего святого. Приемлемо все, что дает результат. Начиная от примитивной купли-продажи до грубого запугивания.

Как следует из «Резонанса», в стойло «конструктивной оппозиции» попросят зайти всех. Кто не пожелает поменять ориентацию, будет гореть в огне компромата. Для убедительности Зимовский заверил, что власть ведет тщательный учет всех внебрачных детей оппозиции и финансов, полученных от контрабанды. Классика позднего лукашизма! Типичное жлобство и примитивный шантаж.

Наличие политического сыска в Беларуси — это секрет полишинеля. Вниманием рыцарей плаща и кинжала оппозиция не обделена. Что на прошлой неделе еще раз засвидетельствовал Лукашенко. Колхозное поле вызвало у бывшего президента приступ откровения. Он достаточно подробно, с нескрываемым удовлетворением живописал работу спецслужб по работе с инакомыслящими. Даже в советские времена на эту деликатную тему старались не распространяться. А.Г. не смущается и не краснеет, говоря о политическом сыске, подтверждал нарушения прав человека. Ему необходима демонстрация тотального контроля над ситуацией, за каждым в отдельности. Примечательно, что психологическая атака на слабонервных предпринята в период так называемой переориентации на Запад и дискуссии о начале возможного переговорного процесса. Типичная провокация. И это не новинка сезона — это стиль авторитарных правителей. ■

ДЫЯГНАЗ

## Еврофобия


Александр ПОТУПА

И все-таки есть у нас неисчерпаемый в своей уникальности экспортный ресурс. Можем мы многовекторно и взаимовыгодно торговать *еврофобскими мифами*. То есть страхом перед Европой в малосольной, свежезамороженной и совсем уж политруковско-самодеятельной форме. Желательно, под красно-зеленый перчик и коричневатую славянскую подливку. Что при неизбежных ста граммах незамедлительно стимулирует обильную саможалостливую слезу и духовную нежность к себе горячо любимому.

*Они нас не ждут!* А чего ждать-то? Почти все 20-е столетие их хотели загнать в такой же лагерь, который царил в бывшем СССР. И для убедительности несколько десятилетий держали под европейским носом самый могучий в мире авиационно-танковый кулак. Даже оставшийся от него белорусский кукиш (около 3,5 тысяч танков и бронемашин и 350 самолетов и вертолетов) — достойный арсенал для любой великой или малой европейской державы. Только содержать этот стремительно стареющий музей большевистских замыслов не на что. Потому что из-за оных замыслов мы не успели создать ни приличного автомобиля, ни приличного компьютера, ни приличного пиджака. Поскольку собственное простонародье могло обойтись и второсортными отходами от гонки вооружений. А их граждане — не могли и не могут.

*Они нас боятся!* Правильно делают, но ведь не более чем мы сами себя. Даже менее, поскольку плохо знают. Мы свои способности знаем неплохо, но, слава Всевышнему, не до конца. Иначе померли бы со страха при первом же взгляде в зеркало. Выведенному в большевистских пробирках виду *хамо советикус семисапиенс* никакой внешний диверсант не конкурент. Не может ни один диверсант одновременно вывести из строя 20 телефонов-автоматов и 15 лифтов по причине хищения медного кабеля, превратив еще 50 лифтовых кабин в передвижные туалеты типа сортир. У нас по-прежнему опасно вечерами ходить по улицам, но за каждой бабкой, торгующей семечками, *гиенят* пятнистые патрули. А уж за каждым демонстрантом или участником митинга *гиенство*, кроме форменного патруля, осуществляет еще и парочка доброжелателей в штатском. На каждые 50 душ местного населения, включая грудных младенцев и глубоких старцев, приходится примерно по одному силовику. Это ж готовая исправительно-трудовая зона.

У нас каждую неделю свершаются акты *буйного декрето-указо-телеграммо-творчества*. С очередными *ни-и-зя*. И то, что можно, тоже *ни-и-зя*. То есть ввезешь деньги, начнешь операцию, рассчитанную на кое-какую прибыль, а тут — раз, и новые правила игры, и плакали ваши денежки. Растеклись «зелененькие» жалкой лужицей «зайчиков» — можешь хоть локоть кусать и очередным письмом Нацбанка закусывать.

Поэтому — по большому счету — не ждут, не боятся, не верят и ни о чем не просят. Поумнеем — сами придем. Приползем — хоть тушкой, хоть чучелом. ■

SOS

## Куда смотрят власти

*Здравствуйте, уважаемая редакция!*

Читаю вашу газету уже много лет (еще когда была «Свобода»). Живу я в Осиповичах, работаю программистом. Заставила меня написать это письмо заметка в одном из последних номеров о том, что ... «РНЕ уже в Шклове». Должен сказать, что РНЕ уже и в Осиповичах, о чем свидетельствуют надписи черной краской на стенах забора стадиона «Локомотив», а может где-то и еще, я не знаю. Причем эти надписи убирать не спешат. Но кроме этого, в конце июля город был заполонен листовками фашистского толка того самого РНЕ с его главным вдохновителем Баркашовым. Однако местные власти и правоохранительные органы никак не отреагировали на этот беспредел. Из этой листовки человеку несведущему может показаться, что он находится в стране Россия, а не Беларусь, потому что Баркашов и иже с ним говорят о России, подразумевая этим все постсоветское пространство.

**Житель Осиповичей**

## Паслухайце мяне, старую

За мае 80 год мне прыйшлося перажыць многа ўладаў. У польскай школе я не чула слова «беларус», а мова наша тады называлася мужыцкай. А цяпер я цвёрда ўсвядоміла, што я беларуска па нацыянальнасці і праваслаўная па веравызнанні.

Мяне вельмі хвалюе, што на Беларусі знікае яе мова. Мова народа — гэта яго душа. Знікне мова, знікне і народ. На жаль, нашы цяперашнія ўлады робяць шмат чаго, каб Беларусь не была беларускай. І ў гэтым ёй дапамагае праваслаўная царква. Каб наша мова не загінула, трэба ў першую чаргу размаўляць з Богам на матчынай мове. Беларусы не маюць магчымасці гэтага рабіць.

Мяне ўсхвалявала малітва мінскай школьніцы Марыі Заяц, надрукаваная ў газеце НАВІНЫ. Малітва за беларускую мову. Я прапанавала гэтую малітву прачытаць у нашым храме нашаму святару айцу Аляксандру. Ён мне сказаў, што не можа гэтага зрабіць, патрэбны дазвол мітрапаліта Філарэта. І ўвогуле гэта палітыка. Мне было вельмі балюча. Баюся, што страчу давер да праваслаўнай царквы. Тое, у што верыла ўсё жыццё і чым жыла, рушыцца. Я стала думаць, а што ж гэта за палітыка, каб беларусы не маліліся на сваёй мове? Я зразумела, што праваслаўная царква працуе ў духу імперскай Расіі. Царкве патрэбныя несвядомыя беларусы. Калі беларусы стануць больш свядомыя, яны адвергнуць цяперашнюю праваслаўную царкву. У маім разуменні святар пэўнай мясцовасці — гэта духоўны сябра, духоўны лекар кожнага вернічага. Вельмі балюча было, калі святар сказаў, што не любіць беларускую мову. Ён знае французскую і іншыя замежныя мовы, а без беларускай мовы пражыве.

На маю думку, царква не павінна быць разам з дыктатарскай уладай, дзе пануе насілле і беззаконне. Дзе шукаць праўды, як не ў царкве. Калі на Кубу прыехаў Папа Рымскі Іаан ІІ, ён першым чынам пацікавіўся палітычнымі вязнямі і пасадзейнічаў, каб аблегчыць іх лёс. Калі на Беларусь прыехаў Алексій ІІ з Масквы, ён гэтай справай не займаўся. Усё паўтараў «Руская праваслаўная царква», «Руская праваслаўная царква». Чаму на Беларусі Руская праваслаўная царква не беларуская? Нават у такіх дзяржавах, дзе праваслаўе ў меншасці, ёсць свае цэрквы, маю на ўвазе Польшчу, Літву і г.д.

**Пенсіянерка, Нясвіж**

КНІГАРНЯ

## Без віду спераду

**Мікола РУМ**

**Аляксандр Лукашук. У фіялетавай ночы вугал крыла. Дакументальная проза. «Наша Ніва», Бібліятэка «Вострая брама», 1999.**




У найвузейшым канкрэтным сэнсе «У фіялетавай ночы вугал крыла» — кніжка былога газетчыка пра сваю былую газету («Звязду»). У найшырэйшым агульным — сённяшні ўспамін свабоднага чалавека (А.Лукашук цяпер працуе ў Беларускай службе Радыё Свабода) пра ўласную мінулую несвабоду, прадвызначаную савецкай сістэмай...

Аўтар піша ў прадмове: «У гэтых нататках, баюся, адсутнічае від спераду. Я сапраўды працаваў у газеце ў 80-я гады, але гэтая кніжка не дакументальная справаздача, не аб'ектыўная хроніка і нават не прыватны дзённік». І тут жа дадае: «Тым не менш, усё напісанае тут — праўда, у той ступені, у якой напісанае можа быць праўдай».

«Дабро і зло куляліся ў гэтай гісторыі як клоуны на арэне. Гледачы раптам апыналіся ў адной клетцы са звярамі. Усё залежала ад пункту гледжання. А таксама — ад сілы зроку...»

Праца ж газетчыка ў такіх умовах, згодна з метафарай А.Лукашука, нагадвала працэс выкідання з хлява гною: можна віламі, а яшчэ лепш спачатку матычкаю, а пасля віламі (надта ж утаптала за зіму карова). Ва ўсякім выпадку, «галоўнае — пераадолець тэхналагічныя цяжкасці. Праблема праўды хвалявала не болей, чым аднайменная газета. Не было пытання, што пісаць, было — як. Задача палягала ў тым, каб расставіць словы ў найлепшым парадку, каб выбраць эпітэты, даць загаловак. Змест уяўляўся нейтральнай лексічнай масай, якая патрабавала формы — не болей».

Застаецца дадаць, што кніжка Аляксандра Лукашука «У фіялетавай ночы вугал крыла» міжволі прымусіць дасведчанага чытача згадаць знакамітую аналогію — «Кампраміс» расійскага пісьменніка Сяргея Даўлатава (таксама, дарэчы, эмігранта), прысвечаны, як вядома, ягоным прыгодам у талінскай «Советской Эстонии»... Што ж, у Даўлатава шмат прыхільнікаў. Сучасны беларускі варыянт дакументальнай прозы такога кшталту зусім не горшы. ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Европа после войны в Косово

## Война в Косово должна заставить Европу переосмыслить свое будущее

**ЕС должен стать из направленной в себя структуры, поглощенной экономическими планами, во всеевропейский политический проект.**

Десять лет назад лозунг «возвращение к Европе» был центральным лозунгом мирной революции в Центральной Европе. Объединение Европы должно было преодолеть наследие Ялты и обеспечить мир, безопасность, демократию и развитие. Хотя идея «возвращения» отразила идеализированное видение Европы с общими ценностями и наследием, его конкретным выражением было желание присоединиться к процессу европейской интеграции, успешно начатому в западной части континента.

Однако Запад был плохо подготовлен к столкновению с революционными переменами на Востоке. Западноевропейский подход к своим соседям оставался двусмысленным. С одной стороны, ЕС всегда заявляло о поддержке идеи «объединения Европы». Это подтвердилось целым рядом положительных инициатив в поддержку страновичков: программы PHARE, EBRD, а также соглашения ассоциации, ведущие к медленному, но стабильному усилению связей Европейского союза со странами-кандидатами.

Но само существование интегрированной западной Европы стало результатом ужасов Второй мировой войны и разделения и страхов периода холодной войны. Эта отличительная генеалогия повлияла на тот факт, что после 1989 года настоящим приоритетом Союза было не быстрое объединение Европы, но скорее углубление интеграции ее западной части и защита от возможных дестабилизирующих эффектов радикальных геополитических перемен. Маастрихское соглашение и ввод Евро были основными этапами в этом процессе.

Спустя десять лет после падения Берлинской стены видение объединенной Европы похоже прекратило свое существование. Несмотря на официальные декларации о противном, расширение ЕС не рассматривается как главный приоритет. Государства-участники ЕС похоже не готовы провести необходимые реформы и оплатить расходы по такому расширению. Кстати сказать, эти расходы весьма преувеличены, в то время как долговременные положительные эффекты от расширения значительно недооценены. Ренационализация приоритетов странчленов стала очевидной на берлинском саммите, состоявшемся в начале этого года. Переговоры о так называемом «Плане 2000» были отмечены перебранкой между участниками, защищающими свои интересы. Конечный компромисс был основан на общем молчаливом согласии о том, что расширение ЕС не может произойти раньше второй половины следующей декады.

Теперь в процессе институционной адаптации, необходимой для расширения ЕС, появилась явная асимметрия. До сегодняшнего дня ЕС не смог трансформировать свои институты и процедуры для того, чтобы справиться с появлением новых членов. С другой стороны, государства-кандидаты, чтобы отвечать условиям вхождения в ЕС, должны переварить 80.000 страниц правил и законов, известных под названием «acquis communautaire». Это — сизифов труд, поскольку «acquis» растет быстрее, чем способность западноевропейских законодательств их адаптировать для себя. Большая часть «acquis» — продукт долгой и сложной истории ЕС — практически не является существенной для развития новых демократий. Эта смирительная рубашка законов также не является лучшим методом снаряжения свободных рыночных экономик для конкуренции, поскольку некоторые ее части не выполняются самими существующими странами-участниками. Так или иначе, она является авторитарно выдвинутой sine qua non для новых странкандидатов, порождая расстройство и потенциальное негодование Центральной Европы по поводу процесса, в котором концы похоже перепутаны со средствами.

История движется быстрее политики, которая в свою очередь двигается быстрее, чем институты. Войны на Балканах и их последствия застигли врасплох планы ЕС по расширению. Они указали на особую роль западного альянса, и в особенности Европейского союза, в обеспечении мира и безопасности на Балканах и в продвижении демократического строя в регионе. Настоящий долговременный успех войны в Косово может быть обеспечен только перспективой интеграции Балкан с развитой частью Европы. Проигравшие государства юго-восточной Европы превращены в формальные или неформальные протектораты, что подразумевает глубокое вовлечение Европы в создание безопасности во всем регионе. Это требует политического вовлечения и массивного притока средств для восстановления и последующего развития этих государств. Пакт Европейской стабильности для Балкан — это решение, продиктованное не экономическими, но скорее политическими, стратегическими и моральными соображениями.



Центральная Европа со своим опытом демократической и экономической трансформации может и должна внести полезный вклад в перестройку на Балканах. Однако текущая ситуация может привести к двум нежелательным последствиям. Учитывая неотложную срочность перемен на Балканах, процесс расширения для стабильных консолидированных демократий скорее всего будет приостановлен или заторможен. Даже более нежелательными будут последствия для стран, которые попадают между «двумя стульями» (не являясь протекторатом или первоочередниками цикла расширений), таких, как Словакия, Болгария и Румыния. В обоих случаях результат может стать дестабилизирующим антиевропейским отступлением.

Вместо этого прямое вовлечение ЕС на Балканах должно привести к переосмыслению его стратегии расширения. Теперь ЕС должен ввести в действие политику ускоренной политической и обеспечивающей безопасность интеграции стран Центральной Европы без замедления их экономической интеграции. И это не будет рассматриваться как членство «второго класса», но скорее как более правильный «План 2000», верный ответ на надежды объединенной Европы, возрожденные в 1989 году. Это также может стать положительным сигналом для послевоенной реконструкции на Балканах.

**Тимоти Гартон Эш,** писатель и сотрудник колледжа Св. Антония, Оксфорд
**Янос Кис**, профессор философии Центрально-Европейского Университета, основатель Альянса Свободных Демократов, Будапешт
**Адам Михник**, главный редактор ежедневной *Gazeta Wyborcza*, Варшава
**Жак Рупник,** профессор Национального Фонда политических наук, Париж
**Карел Шварценберг,** бывший Советник офиса президента Вацлава Гавела, Прага
**Мартин М. Симечка,** главный редактор ежедневной SME, Братислава
**Александр Смолар,** председатель фонда Батори, Варшава, и сотрудник-исследователь CNRS, Париж





© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 585 Нумар падпісаны ў друк 16/08/99 (15:00) Наклад — 16.510